*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 50 (785)** **13 СНЕЖНЯ 2006 г.**

# Хто перакладзе “Правілы дарожнага руху” на беларускую мову?

МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

вул. Калектарная, 10, 220004, г. Мінск
Тэл./факс: 200-86-87, 200-97-55
E-mail: kanc@minjust.by, minjust@mailgov.by

ул. Коллекторная, 10, 220004, г. Минск
Тел./факс: 200-86-87, 200-97-55
E-mail: kanc@minjust.by, minjust@mailgov.by

11.12.06 г. № 04-1-15/4217

На № ______

**Грамадскае аб’яднанне**
**«Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны»**

**вул. Румянцава, 13**
**220034, г. Мінск**

Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь паўторна разгледзела зварот па пытанні аб перакладзе Правілаў дарожнага руху, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 лістапада 2005 г. № 551 “Аб мерах па павышэнні бяспекі дарожнага руху”, на беларускую мову і паведамляе наступнае.

Паводле Палажэння аб Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь, зацверджанаму пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 кастрычніка 2001 г. № 1605, Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з ускладзенымі на яго задачамі распрацоўвае па даручэнні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага схода Рэспублікі Беларусь, Урада Рэспублікі Беларусь і па уласнай ініцыятыве разглядае праекты заканадаўчых і іншых нарматыўных прававых актаў, дае заключэнні па праектах заканадаўчых актаў, пастаноў Савета Міністраў і міжнародных дагавароў, абагульняе практыку ўжывання заканадаўства па пытаннях, якія адносяцца да кампетэнцыі Міністэрства.

Правам афіцыяльнага тлумачэння актаў заканадаўства і растлумачэння дзеючага заканадаўства ў дачыненні да пэўных праваадносін Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь не нададзена.

Разам з тым, лічым магчымым прывесці асобныя нормы заканадаўства, якія рэгулююць пытанне, што вас цікавіць.

У адпаведнасці з артыкулам 54 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь” нарматыўны прававы акт прымаецца (выдаецца) упаўнаважаным на тое органам (службовай асобай) на беларускай і (або) рускай мовах. Такім чынам, заканадаўствам дапушчаецца альтэрнатыўны парадак прыняцця (выдання) нарматыўных прававых актаў на беларускай або рускай мове.

Значыць, вырашэнне аб прыняцці таго або іншага акту на беларускай або рускай мове або на дзвюх дзяржаўных мовах, павінен прымаць дзяржаўны орган, які ажыццяўляе дзяржаўнае рэгуляванне ў той сферы правазносін, у рамках рэгулявання якой выдаецца нарматыўны прававы акт.

У разглядаемым выпадку гэта - Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, паколькі ў яго кампетэнцыю ўваходзіць арганізацыя дзейнасці па забяспечванні бяспекі дарожнага руху, папярэджванне дарожна-транспартных здарэнняў, распрацоўванне і ўзгадненне рэспубліканскіх стандартаў у сферы бяспекі дарожнага руху.

Афіцыйнае апублікаванне прававога акту на іншых мовах дапушчаецца толькі пры наяўнасці афіцыйнага перакладу на адпаведную мову, зацверджанага адпаведным дзяржаўным органам або службовай асобай у парадку ўстаноўленым для прыняцця (выдання) гэтага акту.

Акрамя таго, у адпаведнасці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з’яўляюцца беларуская і руская мовы. Грамадзянам гарантуецца права карыстання нацыянальнай мовай, права зваротаў у дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадскія аб’яднанні на беларускай, рускай альбо іншай прымальнай для бакоў мове.

Па вышэй званых пытаннях Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь дадзены вычарпальныя адказы, паўторныя звароты па якіх неабгрунтаваны.

У гэтай сувязі і на падставе артыкула 12 Закона Рэспублікі Беларусь ад 6 чэрвеня 1996 года “Аб зваротах грамадзян” перапіска з Грамадскім аб’яднаннем “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” па дадзеных пытаннях спыняецца.

**Першы намеснік Міністра** **А.С. Петраш.**

# 120 гадоў з дня нараджэння Міколы Равенскага



**РАВЕНСКІ** Мікалай Якаўлевіч (17.12.1886, в. Капланцы Бярэзінскага р-на Менскай вобл. — 3.3.1953), бел. кампазітар. Вучыўся на рэгенцкіх курсах у Маскве і Пецярбургу (1913—15), скончыў Маскоўскую кансерваторыю (1930). Працаваў рэгентам і настаўнікам спеваў у г. Наваградак (Гарадзенская вобл.). З 1919 у Менску, кіраўнік хору пры Бел. рабочым клубе, хормайстар гар. т-ра. З 1930 выкладаў у муз. тэхнікуме, Бел. кансерваторыі. У Вял. Айч. вайну рэгент царк. хору ў г. Чэрвень Менскай вобл. З 1944 у Германіі, з 1950 у Бельгіі, у Лювенскім ун-це стварыў студэнцкі ансамбль бел. музыкі. Аўтар апрацовак бел. нар. песень і песень на вершы М. Багдановіча («Слуцкія ткачыхі» і інш.), Я. Купалы, Я. Коласа («Мой родны кут», «Край наш бедны» і інш.), К. Буйло (гіст. сюіта «Курган» паводле аднайм. верша), Ц. Гартнага, З Бядулі, якія часткова ўвайшлі ў яго «Зборнік песень з нотамі» (1922), бел. оперы «Браніслава» (лібрэта У. Дубоўкі; не завершана), бел. аперэты **«Залёты»** (паводле В. Дуніна-Марцінкевіча), музыкі на тэксты царкоўных малітваў, у т. л. «Магутны Божа» (на словы Н. Арсенневай). Падрыхтаваў працу «Характэрныя рысы беларускай народнай песні» (засталася ў рукапісе).

# Зварот Сакратарыяту ТБМ “Віншуем са святамі па-беларуску!”

Сёлета ў снежні гэтага года спаўнілася 15 гадоў, як наша краіна пасля падзей у Віскулях зноў набыла сваю незалежнасць.

У першыя гады незалежнасці прынята Канстытуцыя Беларусі, у якой адзінай дзяржаўнай моваю была беларуская. Беларуская мова пашыралася ва ўсіх сферах грамадскага жыцця краіны, асабліва ў сістэме культуры і адукацыі, а таксама ў кнігавыдавецтве.

Аднак паступовае развіццё нашай мовы штучна спынена ў выніку рэферэндуму 1995 года. Было абвешчана двухмоўе, якое прывяло да амаль поўнага выцяснення дзяржаўнай мовы тытульнай нацыі краіны з усіх сфераў дзейнасці дзяржаўнага апарату, у тым ліку ў галіне адукацыі і культуры.

Тым не менш, беларуская мова, якая мае тысячагадовую гісторыю, захоўваецца на абшарах Еўропы і свету. Падчас перапісу 1999 года значная большасць грамадзянаў Беларусі назвалі яе сваёй роднай. Павага да роднай мовы і яе актыўных носьбітаў пашыраецца сярод розных пластоў беларускага грамадства, асабліва сярод гарадской моладзі. Пра гэта сведчаць сацыялагічныя апытанні і вынікі штогадовага тэставання пры паступленні ў ВНУ (амаль палова абітурыентаў у 2006 годзе абрала беларускую мову ў якасці абавязковага іспыту).

ТБМ звяртаецца да кожнага патрыёта Беларусі: **незалежна ад нацыянальнасці, адносін да канфесійнай і палітычнай дзейнасці шырока ўжывайце беларускую мову ў штодзённым жыцці.**

Зараз надыходзяць зімовыя святы: Дзень Божага нараджэння і Новы год. Мы **заклікаем грамадзянаў Беларусі набываць беларускамоўныя паштоўкі і канверты, віншаваць сваіх сяброў і блізкіх з гэтымі святамі па-беларуску.** Гэта будзе яскравым доказам любові і павагі да роднага беларускага слова.

*Прынята на Сакратарыяце ТБМ 5 снежня 2006 г.*

# Мітынг, прысвечаны 115-годдзю Максіма Багдановіча

9 снежня ў Мінску каля помніка Максіму Багдановічу на плошчы Парыжскай камуны перад будынкам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета адбыўся мітынг, прысвечаны 115-годдзю класіка нацыянальнай літаратуры (09.12.1891 — 25.05.1917).

У мітынгу ўзялі ўдзел прадстаўнікі грамадскасці, супрацоўнікі музеяў, пісьменнікі, паэты, мастакі, артысты, школьнікі і студэнты, у тым ліку дырэктар літаратурнага музея М. Багдановіча Таццяна Шэлеговіч, беларускі графік Віктар Сташчанюк, доктар філалагічных навук Вячаслаў Рагойша, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, аўтар мастацкай канцэпцыі музея Багдановіча Эдуард Агуновіч, жыхары Вілейскага, Дзяржынскага і Менскага раёнаў

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*



№ 50 (786) 13 СНЕЖНЯ 2006 г. наша слова

# Спроба шэдэўра

*Кім, як і калі ствараюцца шэдэўры ў літаратуры, вядома, як і ў іншых дзялянках інтэлектуальна - эмацыянальнай дзейнасці*




*чалавека, сказаць адназначна не так і проста. Ды і ці ўсе шэдэўры з пункту гледжання зместу, формы і духоўнай важкасці - сапраўды шэдэўры, але, безумоўна, у кожным, часам не зусім шэдэўры ёсць старонкі, раздзелы, часткі тэксту, якія, што ні кажы, - а спроба шэдэўра. Менавіта з такога гледзішча неабходна сказаць колькі слоў пра кнігу Святланы Белай "Яраслаўль у лёсе Максіма Багдановіча", выдадзеную "Беллітфондам" у Менску ў 2006 г.*

*Выданне С. Белай па ўсіх параметрах (адпаведнасці гістарычнай праўдзе, веданню жыцця і творчасці М. Багдановіча, стылістыцы і інш.) правамерна разглядаць на лініі такіх выдатных работ па багдановічазнаўству, як "Загадка Багдановіча" М. Стральцова, "Дарогамі Максіма" А. Бачылы, "Шляхі" Н. Ватады, "А сэрца ўсё імкне да бацькоўскага краю" Г. Каханоўскага, зборнік "Шлях Паэта" і інш. Як і пералічаныя вышэй творы, кніга С. Белай з'яўляецца значным унёскам у беларускую культуру ўвогуле і літаратуразнаўства ў прыватнасці.*

*Дакументаваны расповед С. Белай у падзагалоўку да асноўнай назвы пададзены як дакументальнае эсэ. І сапраўды матэрыял кнігі пабудаваны на трох фактах з жыцця геніяльнага паэта. Тут мы ўваходзім у гісторыю горада Яраслаўля, дзейнасць яго культурных устаноў, жыццё рэдакцый тагачасных друкаваных выданняў, у кола сяброў і знаёмых паэта.*

*Перад намі жыццё Максіма ў сям'і ў Яраслаўлі, інтымныя рухі яго душы, творчыя парыванні і здзяйсненні. Гэта быў перыяд, калі ствараўся і пабачыў свет неўміручы "Вянок" паэта, пашыраліся зацікаўленні маладога аўтара па праблемах не толькі беларускіх, але і ўсяго славянскага жыцця і многае іншае. З асаблівай шчымлівасцю чытаецца высокамастацкі, глыбока псіхалагічны раздзел "Пакліканы Адраджэннем" (пра сустрэчу М. Багдановіча з У.І. Пічэтам).*

*Так цікава, грунтоўна, захапляльна і, бадай, упершыню так шырока і паглыблена апісаны яраслаўскі перыяд жыцця і творчасці нашага слыннага паэта, відаць яшчэ і таму, што маці С. Белай - Ала Мікалаеўна Бе-лая па нараджэнні яраслаўка; дарэчы ёй і прысвечана гэтая таленавітая, цеплынёй сэрца створаная кніга.*

*У выданні ёсць матэрыялы, якія на першы погляд нібыта выходзяць за рамкі абазначанай тэмы, але яны, на наш погляд, узбагачаюць багдановічазнаўства. Гэта тычыцца некаторых фотаздымкаў, каталогу мастацкіх твораў, прысвечаных Максіму Багдановічу са збору Анатоля Белага, бацькі С. Белай, у музеі выяўленчага мастацтва ў г. Старыя Дарогі. Там М. Багдановіч прадстаўлены не толькі ў яраслаўскі перыяд жыцця. Заўважаны ў выданні недахопы рэдактарскай і карэктарскай работы.*

*Напрыканцы хочацца павіншаваць аўтара з вялікай творчай удачай і пажадаць далейшых творчых пошукаў і здзяйсненняў.*

***Яўген Гучок.***

(Прапануем чытачам крыху скарочаны раздзел кнігі "Пакліканы Адраджэннем")

# *Пакліканы Адраджэннем*

У снежні 1915 года Максім Багдановіч паехаў у Маскву да гісторыка Уладзіміра Іванавіча Пічэты, які выкладаў курс гісторыі ў Практычнай Акадэміі камерцыйных навук. У. І. Пічэта не быў беларусам, але ягоныя творы зрабілі яго вядомым у беларускім асяроддзі. У сваіх навуковых працах «Літоўска-польскія вуніі і адносіны да іх літоўска-рускай шляхты», «Літоўска-руская дзяржава», «Гедымін», «Гістарычны нарыс славянства» ён разглядаў і беларускія пытанні. Максім ехаў да Пічэты па параду. Ён даўно ўжо вывучаў гісторыю Беларусі і адчуваў, што прыйшоў час падзяліцца некаторымі сваімі думкамі з прафесійным гісторыкам. Многія свае творы юнак пісаў інтуітыўна, ведаючы, што, менавіта, так, а не інакш падзея адбывалася ў мінулым. Гэтую падсвядомую прадбачлівасць, якая ўзнікала ў час напісання вершаў, ён перанёс і ў сваю мастацкую публіцыстыку, а пазней і крытычныя артыкулы. Што б не пісаў ён: рэцэнзаваў збор твораў ці рабіў агляд творчасці пісьменніка, даследваў генеалогію верша ці ягоныя паэтычныя рытмы і рыфму - усюды імкнуўся разгадаць загадку той эпохі. І ягоныя свежыя назіранні, трапныя заўвагі характэрызуюць не толькі літаратурны талент Максіма Багдановіча, але і ўменне адчуць той далёкі час і сітуацыю, у якой пісаліся гэтыя творы.

Усе Максімавы артыкулы былі сугучным сінтэзам паэзіі, гісторыі, слова. Але ці правільная яго інтуіцыя? Дзесяткі, сотні перачытаных кніг па гісторыі і культуры Беларусі не давалі пэўнага адказу. Патрэбен быў час, які б пацвердзіў правату ягоных здагадак. Час або досвед чалавека, які шмат гадоў вывучаў гісторыю, хто, дзякуючы свайму багатаму даследчыцкаму досведу, мог адказаць, ці сапраўды ўсё так яно і было.

Максім адчуў патрэбу параіцца з У. І. Пічэтам, калі пачаў працаваць над артыкулам «Белорусское возрождение». Хаця артыкул і быў надрукаваны ў часопісе «Украинская жизнь», але некаторыя дэталі, асабліва тыя, што тычыліся ўзаемасувязі Беларусі з гісторыяй Расіі, Максім хацеў абмеркаваць з выдатным знаўцам гісторыі славянства. Уладзімір Пічэта, які жыў далёка ад Беларусі і ад Яраслаўля, як здавалася Максіму, быў адзіным чалавекам, які мог яму нешта параіць і дапамагчы. Таму ён і рашыў ехаць да У.І. Пічэты.

Хатнім Максім сказаў, што паедзе да брата Лёвы, які вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Маскоўскага універсітэта. Ад таго даўно не было ніякіх лістоў, і бацька пачаў хвалявацца. Таму Адам Ягоравіч нават узрадаваўся намеру Максіма паехаць у Маскву, каб адведаць брата і сваіх знаёмых і нават даў на дарогу грошай.

Ноч перад ад'ездам была суровая. Круціла завіруха. З Волгі дзьмуў халодны вецер. І толькі пад раніцу снег спыніўся, і ранак сустрэў прыгожым краявідам зачараванага снежнага царства. З светлым пачуцём Максім адправіўся ў Маскву.

Цягнік ляцеў шпарка, заснежаныя краявіды мільгалі ў вакне. За доўгую снежную ноч усё змянілася. Толькі па ледзь бачных арыенцірах можна было здагадацца аб знаёмых некалі мясцінах. Недзе там, за ўзгоркам, каля прыгожых залаташаломных сабораў схавалася пад глыбокім ільдом і снегам прыгожае возера Неру. На яго берагах, як на далоні, раскінуўся Растоў Вялікі, равеснік Полацка. Максім ведаў, як і горад-радзіма Скарыны, што ганарыцца сваім Сафійскім саборам, так і Растоў Вялікі меў гонар ад старажытнага Крамля. Здалёк былі бачны яго 10 вежаў і купалы пяці цэркваў. А недалёка ад Крамля Спаса-Якаўлеўскі манастыр. у якім захавалася адна з найбагацейшых бібліятэк старажытных рукапісаў. Старадрукі заўсёды цікавілі Максіма. Яны былі сведкамі той далёкай мінуўшчыны, якая не можа не вабіць чалавека. Юнаку ўжо даводзілася бачыць рукапісы рызніцы Спаскага манастыра ў Яраслаўлі і пажаўцелыя старадрукі з прыватнай бібліятэкі ягонага настаўніка Парфірыя Мізінава. Найбольшае ўражанне пакінулі фаліяты, якія паказваў яму Вацлаў Ластоўскі ў музеі Івана Луцкевіча. Экспанаты музея якія ягоны заснавальнік Іван Луцкевіч збіраў усё жыццё, былі сапраўды рэдкасныя.

Пад уражаннем пабачаных рукапісаў, Максім напісаў цыкл твораў пра старажытную культуру беларускага народа «Старая Беларусь». Пазней ягоныя маленькія шэдэўры здзівілі даследчыкаў багдановічаўскай творчасці. Тыя доўгі час не разумелі, як ён за кароткі час экскурсіі па музеі Івана Луцкевіча змог убачыць самае істотнае ў старадруках, адчуць дух тых далёкіх часоў, настрой далёкіх стагоддзяў. Толькі па інтуіцыі зрабіць гэта немагчыма, нават генію. Даследчыкі доўга не ведалі аб той вялізарнай працы, якую правёў Максім Багдановіч ў старажытным Яраслаўлі, вывучаючы старадрукі, якія захаваліся ў яраслаўскіх храмах.

Без той штодзённай працы, магчыма, і не нарадзіўся бы ягоны цыкл «Старая Беларусь».

Максім сядзіць ля вакна. Здаецца, пазірае на навакольныя краявіды, але ў думках ён ўжо у Маскве. Як сустрэне яго Пічэта? Ці збудуцца ягоныя надзеі на супрацоўніцтва або ён, як гаворыць бацька, лятуценнік, занёсся ў далёкія даляглядзы? А цягнік ужо не ляціць, а цягнецца. Чым бліжэй Масква, тым марудней ідзе час. Максім спрабуе не думаць аб сустрэчы, засяродзіць увагу на прыгожых краявідах, але кожны горад, станцыя, якую ён праязджае, наводзяць на нейкія паралелі з Беларуссю. Узяць бы той жа Аляксандраў. Калісьці тут была вядомая гістарычная Аляксандраўская слабада, калыска друкарства ў Маскоўскай Русі: тут была наладжана пры Іване Жахлівым адна з першых друкарняў на тэрыторыі Маскоўшчыны. Сталася гэта ў сярэдзіне XVI стагоддзя. А першую кнігу на максімавай Радзіме, ў Вільні, Ф. Скарына выдаў у 1522 годзе. Так што «Малая падарожная кніжка» апярэдзіла расійскія выданні на некалькі дзесяткі гадоў.

Альбо славутая Троіцка-Сергіеўская лаўра. У пачатку XVII стагоддзя пад яе сцены падыйшлі разам з войскам Сапега і Лісоўскі. Шмат беларусаў загінула пад сценамі горада-цвердзі, які выстаяў 16-месячную аблогу сапегаўскага войска...

... Нарэшце, белымі саборамі паказалася Масква. Яраслаўскі вакзал. Сотні людзей. Максім адразу ўцягнуўся ў віхор бурлівага сталічнага руху. Паддаючыся пачуццю нечакана нахлынуўшай свабоды, юнак накіроўваецца на адрас Пічэты.

У. І. Пічэта жыў на другім паверсе вялікага трохпавярховага дома. Максім з незразумелай яму цяжкасцю падняўся па лесвіцы і пазваніў у дзверы. На ягоны званок выйшаў высокі мужчына, гадоў на 13 старэйшы за Максіма. На пытанне: «Ці магу я пагаварыць з Уладзімірам Пічэтам», той неяк суха адказаў: «Я - Пічэта. Чым магу быць карысным, малады чалавек?».

Максім прадставіўся як студэнт Яраслаўскага дзямідаўскага ліцэю і аўтар паэтычнага зборніка «Вянок». Расказаў пра сваё захапленне беларусістыкай, сваіх сувязях з рэдакцыяй газеты «Наша ніва», падзяліўся сумненнямі, сваімі думкамі аб вывучэнні роднай літаратуры. Пічэта слухаў быццам бы ўважліва, але, як паказалася Максіму, было ў ягоным поглядзе больш ветлівай цікавасці, чым сапраўднага жывога інтарэсу. Да таго ж з суседняга пакою даносіўся моцны, надрыўны кашаль нейкай асобы. Таму, падумаўшы, што ягоны прыход у нечым перашкаджае, Максім паспяшыў адкланяцца.

- Заходзьце яшчэ калі-небудзь, - сказаў больш цёпла на развітанне Уладзімір Пічэта. - Вельмі было цікава пазнаёміцца з Вамі. Вашыя гістарычныя назіранні вельмі слушныя, і я думаю, што час пацвердзіць іх вартасць і правату.

Гэтыя словы працягвалі гучаць у вушах Максіма, калі ён выйшаў на вуліцу. Можа ён дапусціў памылку, калі так рана развітаўся з гісторыкам? Юнак ужо хацеў павярнуць назад, зноў зайсці да вучонага і запытацца аб тым, што не паспеў запытаць. Але прыродная сціпласць і нейкае ўнутранае пачуццё сарамлівасці казалі яму адкласці сустрэчу на наступны раз. Ад Пічэты Максім накіраваўся да брата.

Лёва быў здаровы, як заўсёды ўвесь у клопатах. Не пісаў доўга таму, што не меў часу. Лёва збіраўся на фронт і перад ад'ездам вырашаў тысячы важных і другарадных спраў. Вось і цяпер, пагутарыўшы з паўгадзіны з братам, той мусіў бегчы на спецыяльныя вайсковыя курсы.

Максім сядзеў у невялікім Лёвіным пакоі, пераглядаў рукапіс свайго «Белорусского возрождения». Ён хацеў яшчэ раз перачытаць артыкул перад тым, як аддаць яго К. Някрасаву, у выдавецтве якога ўжо выйшлі ягоныя брашуры «Червонная Русь», «Угорская Русь», «Братья-чехи». «Белорусское возрождение» займала у творчасці М. Багдановіча прыкметнае месца, бо як і творы «За сто лет», «Новый период в истории белорусской литературы», «Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XVI сталецця» артыкул пісаўся, як частка падручніка па гісторыі беларускай літаратуры...

... Два студэнты ўвайшлі ў пакой і здзіўлена паглядзелі на Максіма. Адзін з іх быў шыракаплечы, каржакаваты, з прыгожай чорнай кучаравай шавялюрай і карымі вачыма. Другі - хударлявы, шэравокі меў нейкае хваравітае адценне твару.

- Маё імя Паўло, - сказаў, прывітаўшыся, чарнявы, - а майго сябра клічуць Андрэй. Мы аднакурснікі Лёвы. А кім будзеце Вы?

- Мяне завуць Максім, я брат вашага сябры, - неяк без асобага энтузіязму адказаў Багдановіч. - Лёва абяцаў вярнуцца хутка. Так што вы можаце пачакаць яго.

Паўло скінуў шынель і сеў каля стала, за якім працаваў Максім. Андрэй, моўчкі апусціўся на ложак.

Пакуль Максім заварваў гарбату на кухні, Паўло прагледзеў артыкул.

- Я ўжо чытаў ваш артыкул, - сказаў ён, калі Максім вярнуўся.

- Дзе? - здзіўлена спытаў Максім.

- У рэдактарскім адбітку часопіса «Украинская жизнь», у першым нумары за 1915 год.

- Няўжо мой артыкул пастаўлены ў першы нумар? - здзівіўся Максім. - Я не думаў, што рэдакцыя так хутка надрукуе яго.

- Добры артыкул, - працягваў Паўло. - І ведаеце, што я вам параю: аддайце яго ў «Вісник Союзу Вызволення України».





- Першы раз чую пра «Вісник», - адказаў Максім. - Ці не можаце Вы расказаць пра гэтае выданне.

- Чаму не, - з радасцю згадзіўся Паўло. - «Вісник» выдаецца «Союзом Вызволення України» (СВУ), палітычнай арганізацыяй эмігрантаў з Расійскай імперыі ў Аўстра-Венгрыі і Нямеччыне з 1914 года. Саюз рэпрэзентуе інтарэсы ўсіх украінцаў пад расійскім панаваннем. Мы намагаемся, выкарыстоўваючы вайну Аўстра-Венгрыі і Нямеччыны супраць Расіі, здабыць самастойнасць Украіны. Украіна мусіць быць канстытуцыйнай манархіяй з дэмакратычным ладам...

...- Ты думаеш, што мая праца зацікавіць арганізацыю «Союза Визволення України»? - запытаў Максім.

- А чаму не. Арганізацыю, якая дбае пра незалежнасць свайго краю, не могуць не цікавіць праблемы нацыянальнага руху на суседніх беларускіх землях. Твой нарыс напісаны гістарычна дакладна, публіцыстычна ярка. Ён дас цікавы матэрыял для роздуму.

Падумаўшы, Паўло дадаў:

- Акрамя таго, для кіраўнікоў украінскага руху важна, што ты ўпамянуў у сваёй працы імя Сяргея Палуяна, які шмат зрабіў для нацыянальна-адраджэнцкага друку Украіны.

- Сяргей Палуян шмат зрабіў і для нацыянальнага адраджэння Беларусі. Я таксама абавязаны яму многім. Быў нейкі час, калі мае творы не друкаваліся ў газеце «Наша ніва», і Сяргей пісаў мне лісты, у якіх заахвочваў працягваць пісаць свае вершы.

- Ты асабіста ведаў Палуяна? - са дзіўленнем запытаў Паўло.

- Нажаль, не. Мы пазнаёміліся толькі дзякуючы перапісцы. Сяргей быў на год старэйшы за мяне, і я яму многім удзячны.

Максім хацеў яшчэ сказаць, што ён разумее, чаму Палуян так заахвочваў яго пісаць. Ён таксама як і Максім Багдановіч быў па сутнасці адзінокім.

Але прыход Лёвы абарваў іхнюю размову. Лёвіны сябры адразу забыліся пра адраджэнне, палітыку, нацыянальны рух і ператварыліся ў вясёлых студэнтаў, якія толькі што здалі экзамены, Іх бяспечны настрой перайшоў да Максіма. і больш у гэты вечар ён за пісьмовы стол не прысеў. Выдаўцу Канстанціну Някрасаву ён перадаў свой артыкул на наступны дзень.

- Невялікія змены я магу прыйшлю пазней, - папярэдзіў ён.

- Якія змены? - здзіўлена запытаўся Някрасаў. - Артыкул цудоўны, будзем друкаваць.

Вечарам Максім ад'язджаў у Яраслаўль. Калі цягнік без прыпынку праляцеў Сергіеўскі пасад, дзе ён бачыў Аню, у юнака нешта сціснула ў грудзях.

# Гісторыя вяртаецца да нас





Цёпла і шчыра прайшла прэзентацыя новай кнігі Вольгі Іпатавай "Апошнія ахвяры свяшчэннага дуба". У час, калі пісьменнікаў пазбавілі іхняга Дома літаратараў, пісьменнікам дапамагаюць грамадскія арганізацыі. Вось і цяпер Управа БНФ прадставіла знанай пісьменніцы сваю сядзібу для таго, каб чытачы Вольгі Іпатавай змаглі пазнаёміцца з яе творам, у якім яна вяртае беларусам



памяць пра часы росквіту беларускай дзяржавы, а менавіта часы Альгерда.

"Я чытаў гэтую кнігу з вялікай цікавасцю, ажно ўначы не мог адарвацца ад старонак", - гэтую ацэнку вядомага грамадскага дзеяча, археолага, старшыні Таварыства беларускай мовы Алега Трусава пісьменніца ўспрыняла як тое, "што акрыляе і натхняе на далейшую працу".

- Алег Анатолевіч добра ведае гэтую эпоху, таму ўсе ягоныя заўвагі я прыняла з вялікай удзячнасцю" - адзначыла яна.

На прэзентацыі выступіла старшыня рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алена Макоўская, якая падкрэсліла ў сваім выступленні, што Вольга Іпатава плённа супрацоўнічае з "Бацькаўшчынай": летась выступіла складальніцай кнігі пра Міколу Ганька, былога старшыню Згуртавання беларусаў Канады, а цяпер працуе над кнігай пра Аляксея Грыцука, якая неўзабаве выйдзе пад патранажам "Бацькаўшчыны". Гэта - таксама вяртанне гістарычнай памяці і вельмі важна на сённяшнім этапе беларускай гісторыі.

Лідзія Савік, аўтарка кнігі пра Вольгу Іпатаву "Адна між замкаў", высока ацаніла новы твор пісьменніцы і выказала ўпэўненасць, што некалі гэтая кніга таксама ўвойдзе ў школьныя праграмы, як увайшлі ў яе раман "За морам Хвалынскім" і аповесць "Прадыслава." "Дзяржава дае грошы на кнігі, якія не маюць для нацыі таго нацыяўтваральнага значэння, якое нясуць з сабой творы высокага гістарычнага і мастацкага кшталту, такія, якія піша Вольга Іпатава і іншыя таленавітыя беларускія пісьменнікі"—сказала яна.

На вечарыне таксама выступілі госці з Вілейкі, якія спецыяльна прыехалі на гэтую прэзентацыю: бард Алесь Наркевіч, паэт Сяргей Макарэвіч і іншыя.

***Юрка Трубец.***

На здымках: прэзентацыя кнігі "Апошнія ахвяры свяшчэннага дуба".



*Анатоль Грыцкевіч*

# Слуцкі збройны чын і лёс яго ўдзельнікаў

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### 6. Лёс удзельнікаў Слуцкага збройнага чыну

Пасля пераходу на тэрыторыю, якую кантралявалі польскія войскі, афіцэры і жаўнеры Слуцкай брыгады былі раззброены і інтэрнаваны (да афіцыйнага заканчэння савецка-польскай вайны і падпісання канчатковага мірнага дагавору) спачатку ў часовы лагер у мястэчку Сіняўка (цяпер Клецкі раён), потым у лагер у Беларстоку, а з пачатку сакавіка 1921 г. у лагер у Дарагуску (на рацэ Заходні Буг ля Хэлма). Яны былі вызвалены з лагера толькі ў траўні 1921 г., пасля ратыфікацыі ўладнымі органамі РСФСР і УССР, з аднаго боку, і Польшчай, з другога боку, падпісанага ў Рызе 18 сакавіка 1921 г. канчатковага мірнага дагавору (зноў без удзелу БССР). Мірны дагавор быў ратыфікаваны прэзідыумам Усерасійскага ЦВК 17 красавіка і кіраўніком польскай дзяржавы Ю. Пілудскім 15 красавіка.

Дарэчы, у выніку Рыжскага міру 1921 г. дзяржаўная мяжа паміж Польшчай і БССР была крыху зменена менавіта на тэрыторыі Слуцкага павета на карысць Польшчы. Да Польшчы адыйшла тэрыторыя паміж рэкамі Ланню і Случчу, а таксама некаторыя ўчасткі на поўнач ад Менска ў раёне Радашковічаў.

Інтэрнаваныя жаўнеры 1-й Слуцкай брыгады стральцоў войскаў БНР знаходзіліся ў цяжкіх умовах. Пры дрэнным харчаванні яны мусілі цяжка працаваць на розных работах. Тым не менш у лагеры праводзілася культурна-асветніцкая праца, часам на вечарынах ставіліся п'есы беларускіх аўтараў і дэкламаваліся вершы Янкі Купалы. Якуба Коласа і Алеся Гаруна, хор выконваў беларускія песні. 20 красавіка 1921 г. інтэрнаваныя былі пераведзены ў стан жаўнераў і перададзены пад каманду камандзіра 1-й брыгады капітана Антона Сокала-Кутылоўскага, а потым капітана Язэпа Залескага. Пасля вызвалення з лагера жаўнеры і афіцэры Слуцкай брыгады раз'ехаліся ў розныя мясціны Заходняй Беларусі.

Каля 2500 жаўнераў брыгады, якія не пагадзіліся пайсці ў лагер для інтэрнаваных, засталіся ў ваколіцах Нясвіжа. Яны разам з жаўнерамі аднаго з батальёнаў Беларускай арміі С. Булак-Балаховіча і беларускімі дэзерцірамі з Чырвонай арміі склалі разам каля 4 тысяч чалавек, арганізоўваліся ў партызанскія аддзелы. І частка іх пераходзіла на тэрыторыю Савецкай Беларусі для барацьбы супраць савецкай улады.

Частка жаўнераў Слуцкай брыгады была арганізавана камандаваннем 4-й польскай арміі ў рабочыя дружыны і займалася адбудовай мастоў, дарожнымі і іншымі работамі ў прыфрантавой паласе. У пачатку лютага 1921 г. гэтыя рабочыя дружыны налічвалі больш за паўтары тысячы чалавек. Рабочыя дружыны папаўняліся і беларускімі партызанамі, якія ў пэўных акалічнасцях вымушаны былі перайсці на польскую тэрыторыю. Пасля ратыфікацыі савецка-польскага мірнага дагавору галоўнае камандаванне Войска Польскага 24 красавіка 1921 г. аддало загад усе беларускія вайсковыя фармаванні і рабочыя дружыны ліквідаваць. Што і было выканана ў траўні 1921 г.

Архіў Слуцкай брыгады ў ліпені 1921 г капітан А. Сокал-Кутылоўскі адвёз у Вільню і перадаў Браніславу Тарашкевічу.

Сцяг 1-га Слуцкага палка А. Сокал-Кутылоўскі прасіў епіскапа Пінска-Наваградскага Панцеляймона прыняць у Наваградскі сабор, але епіскап, вядомы сваімі расійскімі і манархічнымі сімпатыямі, у просьбе адмовіў.

Шмат слуцкіх жаўнераў засталося ў Заходняй Беларусі. Частка шарагоўцаў вярнулася ў Беларускую ССР пасля амністыі абвешчанай Савецкай уладай у сувязі з заканчэннем грамадзянскай вайны ў Расіі. Амністыя была пашырана і на Беларусь. Але нягледзячы на амністыю, шмат шарагоўцаў, якія ўдзельнічалі ў Слуцкім збройным чыне, атрымалі прысуды на 1 год зняволення. Пасля яны працавалі, галоўным чынам, у калгасах. Аднак у 1937-1938 гг. яны зноў былі арыштаваны і зніклі бясследна.

Палітычныя і вайсковыя кіраўнікі Слуцкага збройнага чыну ў большасці былі рэпрэсаваныя Савецкімі карнымі органамі, калі траплялі ім у рукі.

Некалькі афіцэраў Слуцкай брыгады былі перададзены польскімі ўладамі савецкім органам і расстраляныя. Паводле сведчання А. Сокала-Кутылоўскага, сярод іх былі капітан Анастас Анцыповіч і Антон Самусевіч. Падпалкоўнік Ахрэм Гаўрыловіч і паручнік Язэп Багушэвіч вярнуліся праз некалькі гадоў на Случчыну, паддаўшысь бальшавіцкім абяцанкам аб амністыі, але былі арыштаваны, асуджаны і згінулі ў савецкіх канцэнтрацыйных лагерах. Такі ж лёс напаткаў і шараговых стральцоў, якія праз 4-5 гадоў вярнуліся з Заходняй Беларусі на Случчыну. Паручнік Бранвіцкі быў забіты ў Польшчы падасланым агентам НКУС. Паручнікі Тодар Якушэнка і Мікола Кернажыцкі былі арыштаваны ў 1939 г., пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР, і асуджаны да зняволення ў лагеры. Прапаршчык Рудзік быў рэпрэсаваны ў 1940 г. Лекар Арсень Паўлюкевіч удзельнічаў ў антыгітлераўскім руху ў Варшаве, быў арыштаваны немцамі і загінуў.

Антон Сокал-Кутылоўскі двойчы арыштоўваўся НКУС – 19 чэрвеня 1941 г. у Баранавічах (але праз некалькі дзён з-за адступлення Чырвонай арміі вызваліўся з вязніцы) і ў 1945 г. і адбываў пакаранне ў лагерах. Павел Жаўрыд, які вярнуўся на радзіму ў 1923 г., быў арыштаваны ў 1930 г. і памёр у 1939 г. у лагеры. Юры Ліктапад, сябар Рады Случчыны, улетку 1922 г. вярнуўся на радзіму. Тройчы арыштоўваўся, быў асуджаны і расстраляны ў 1938 г.

Макар Касцевіч (Краўцоў), аўтар гімна БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", падпаручнік, загадваў друкарняй брыгады ў Клецку. У кастрычніку 1939 г. арыштаваны НКУС у Вільні (разам з іншымі беларускімі дзеячамі) і вывезены ў СССР. Далейшы яго лёс невядомы.

Язэп Лагіновіч (псеўданім Павел Корчык) быў жаўнерам (старшым пісарам) 2-й роты 1-га слуцкага палка. У Заходняй Беларусі перайшоў на камуністычныя пазіцыі, прымаў удзел у рэвалюцыйным руху і стаў нацыянальным сакратаром камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Прыгавораны ў СССР да расстрэлу, ён памёр у 1940 г. у менскай турме. Сярод слуцких жаўнераў было шмат слаўных людзей. Гэта былі палітычныя і грамадскія дзеячы, афіцэры і шарагоўцы, інтэлігенты, гараджане і сяляне, свядомыя беларусы. Усе яны выступалі за незалежнасць Бацькаўшчыны.

Кіраўнікі і ўдзельнікі Слуцкага збройнага чыну 1920 г. за кароткі тэрмін здолелі ўтварыць баяздольны адзінкі беларускага нацыянальнага войска. Яны ў неспрыяльных умовах на працягу месяца вялі цяжкую барацьбу супраць значна больш магутнейшага супраціўніка. Аднак у тых абставінах, якія склаліся ў канцы 1920 г., без якой – небудзь дапамогі звонку, пры варожай, па сутнасці, пазіцыі Польшчы, лёс гэтай барацьбы быў перадвызначаны. Але гэта не змяншае яго значэння ў гісторыі Беларусі XX стагоддзя. Слуцкі збройны чын увайшоў у гісторыю як адна са слаўных старонак беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

Штогод 27 лістапада адзначаецца беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі на Бацькаўшчыне і ў розных краінах свету як Дзень Герояў, дзень Слуцкага збройнага чыну 1920 года. У наш час, для умацавання суверэнітэту Беларусі. Святкаванне гэтага дня набывае вялікую актуальнасць. Адной з важнейшых падзей у барацьбе за незалежнасць і суверэнітэт Беларусі быў менавіта Слуцкі збройны чын 1920 г.

*А. Грыцкевіч.*

**Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" выказваюць шчырыя спачуванні старшыні Маскоўскай арганізацыі ТБМ (Расія) Антону Сабалеўскаму ў сувязі з напаткаўшым яго горам - смерцю жонкі.**

## Альбом "Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Мастацтва 1920—1950 гадоў"

Прэзентацыя альбома "Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Мастацтва 1920—1950 гадоў" ("Национальный художественный музей Республики Беларусь. Искусство 1920—1950 годов) прайшла 8 снежня ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Менску.

Кніга аб'ёмам 396 старонак выйшла ў сталічным выдавецтве "Беларусь" накладам 3 тыс. асобнікаў **на беларускай, рускай і англійскай мовах**. У альбоме прадстаўлена гісторыя фарміравання музейных калекцый, жывапіс, графіка, скульптура і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі і Расіі. У выданне ўвайшло 340 рэпрадукцый больш чым 200 мастакоў, якія адлюстравалі ў сваіх працах рэвалюцыйны дух сацыялістычнага эксперыменту, пафас будаўніцтва новага грамадства, вычын народа ў Вялікай Айчыннай вайне і энтузіязм пасляваеннага аднаўлення.

Як зазначыў дырэктар музея і рэдактар выдання Уладзімір Пракапцоў, выпуск выдання ажыццёўлены па заказе і фінансавай падтрымкы Міністэрства інфармацыі. Паводле яго слоў, выданне з'явіцца другім томам трохтомніка. "Першы том збору, што выдадзены некалькі гадоў таму, ужо стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. Таму мы звяртаемся да Міністэрства інфармацыі з просьбай надрукаваць другі наклад першага тома", — сказаў У.Пракапцоў.

Праз некалькі гадоў плануецца выпусціць трэці том гэтага ўнікальнага выдання, прысвечаны творчасці сучасных беларускіх мастакоў.

Намеснік міністра інфармацыі Ігар Лапцёнак звярнуў увагу на аднаўленне ў краіне "добрай традыцыі" выдання мастацкіх альбомаў і ўзгадаў, што ў савецкія часы ў выдавецтве "Беларусь" існавала спецыяльная рэдакцыя па выпуску такой прадукцыі. Паводле слоў І.Лапцёнка, у фондах Нацыянальнага мастацкага музея захоўваецца такое мноства твораў, невядомых шырокай публіцы, што можна запланаваць выданне цэлай серыі падобных альбомаў.

Дырэктар выдавецтва "Беларусь" Аляксандр Сталяроў паведаміў, што выпуск першых двух тамоў збору каштаваў прадпрыемству 170 млн. рублёў. Сярод выданняў, запланаваных да выхаду сумесна з музеем, ён назваў альбомы па Мірскім замку, беларускім плакаце, заходнееўрапейскай скульптуры, а таксама фарфоры і фаянсе.

*М. ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## Чорнае зерне з беларускай мовай




ЗП "Ікар-тайм", якое знаходзіцца ў г. Менску па вул. Куйбышава 25-101 расфасовае егіпецкую растваральную каву ў бляшанкі, афармлены выключна на беларускай мове, што адразу надае тавару імідж свайго. А раз сваё, то і купіць хочацца ў адпаведнасці з заклікам "Купляйце беларускае".

*Наш кар.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 11. 12. 2006 г. у 10.00. Замова № 2599.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1640 руб., 3 мес.- 4920 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.